**У нумары:** Справаздача з Пленума ГП БГКТ  Літаратурная старонка  Сіла медыцыны



ПРЭЗІДЫУМ ПЛЕНУМА ГП БГКТ



З дакладам выступае старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі.


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (405) | ГОД VIII | 1 СНЕЖНЯ 1963 г. | ЦАНА 60 ГР


# ЯКАЯ ТЫ, ДЗЯЎЧЫНА?

16, 17 лістапада ў Варшаве адбылася III Краёвая нарада вясковых дзяўчат. З нашага ваяводства прыняло ў ёй удзел 13 дэлегатак. Якімі дасягненнямі дзяўчаты ЗМВ прывіталі Краёвую нараду?

Саюз вясковай моладзі ў нашым ваяводстве сваю працу сярод дзяўчат пачаў 5 год таму. Пачатак быў нялёгкі. Трэба было многа пераконвання, каб вясковыя дзяўчаты ўступалі ў рады ЗМВ. Што ж тады гаварыць аб нейкіх гаспадарчых ці культурных пачынаннях? Сур'ёзнай перашкодай тут былі бацькі, якія спачатку з пагардай адносіліся да арганізацыі. Таму і былі створаны пры ваяводскім і павятовых праўленнях ЗМВ спецыяльныя рады дзяўчат, якія і дагэтуль бескарысліва кіруюць працай сярод нашых сябровак. Працу мы пачалі ад падрыхтоўкі дзяўчат да практычнага жыцця, вучылі адпаведнай ролі жонкі, маці і гаспадыні. Рабілі гэта праз курсы рацыянальнага харчавання, кройкі і шыцця, школы здароўя, у якіх дзяўчаты вучыліся апекавацца дзяцьмі, пазнавалі падставы свядомага мацярынства і г.д. З кожным годам расце запатрабаванне на такога роду веды. Дзякуючы гэтым формам 36% нашага Саюза сёння складаюць дзяўчаты. 381 з іх маюць функцыі старшынь гурткоў. Многія знаходзяцца ў павятовых і ваяводскіх уладах ЗМВ. Словам, дзяўчаты тарнуцца да арганізацыйнага жыцця нашага Саюза. Многія гурткі ЗМВ здабылі дасягненні толькі і выключна дзякуючы працы дзяўчат. Ніякая праца ў Саюзе не адбываецца без іх. У такіх паветах, як Граева, Высока Мазавецкае, Алецка, рэй вядуць дзяўчаты.

Папулярная форма працы сярод дзяўчат — гэта конкурсы, мэтай якіх з'яўляецца паляпшэнне санітарнага стану вёскі і асабістай гігіены. У сярэднім у год у конкурсах прымае ўдзел звыш 1000 дзяўчат з ЗМВ. У апошні час адбыўся конкурс на чысціню кватэр і гаспадарскіх забудаванняў. На 1111 удзельнікаў конкурсу — 591 былі членамі ЗМВ. На Ваяводскім з'ездзе актывістак, арганізаваным супольна ЗМВ, ВЗГС, сельскагаспадарчымі гурткамі, 12 нашых дзяўчат атрымалі ўзнагароды. Нашы конкурсы, напрыклад, «Найпрыгажэйшы кветкавы агароднік», «Агарод» увайшлі ўжо ў штодзённае жыццё.

Дзяўчаты ахвотна слухаюць парад лекара, шырока арганізуем школы здароўя для дзяўчат і хлопцаў (асобна). Дагэтуль такіх школ было 400. Хочам, каб вясковыя дзяўчаты арыентаваліся ва ўсім, каб былі таксама модныя, як дзяўчаты з горада. Арганізуем многа практычных паказаў ці то моды, ці падрыхтавання гасціны, напіткаў і т.д. У паветах і ваявод-

(Працяг на стар. 4)

# ЗА ДАЛЕЙШЫЯ ПОСПЕХІ

Сацыялістычная свядомасць не нараджаецца аўтаматычна. Яе нараджае і распаўсюджвае жывая штодзённая ідэалагічна - палітычная дзейнасць партыі і ўсіх яе звенняў, аб'яднаных у фронце адзінства народа.

17 лістапада г.г. ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага Праўлення БГКТ, прысвечанае працы нашага таварыства ў святле пастаноў XIII Пленума ЦК ПАРП. Даклад прэзідыума зачытаў старшыня Галоўнага Праўлення БГКТ Міхась Хмялеўскі. У дакладзе гаварылася ў асноўным аб тых дзялянках працы беларускай арганізацыі, якія маюць уплыў на выхаванне чалавека, на фармаванне яго светапогляду. Асабліва моцна падкрэслівалася, што ўсю працу БГКТ неабходна насыціць указаннямі партыі, і гэтая праца павінна быць накіравана на выхаванне новага чалавека.

У дакладзе многа прысвечана месца літаратурнаму аб'яднанню «Белавежа». Між іншым чытаем там наступнае: «Вялікае ідэйна - выхаваўчае значэнне мае ў працы БГКТ творчасць членаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Яно налічвае зараз 35 членаў, якія пражываюць у розных раёнах Польшчы. Трыбунай літаб'яднання, як вядома, з'яўляецца літаратурная старонка ў штотыднёвіку «Ніва». Выйшла ўжо яе 59 нумароў». Далей былі падкрэслены дасягненні і хібы літстаронкі, а таксама накрэслены напрамкі яе паляпшэння. Маецца на ўвазе далейшае дасканаленне пісьменніцкага майстэрства, адлюстроўванне ў творах велічы нашага часу, шырэйшае супрацоўніцтва з Саюзам польскіх пісьменнікаў, утрымоўванне цяснейшых кантактаў з пісьменнікамі Савецкай Беларусі, запрашэнне літаратурнага кансультанта.

Наступны раздзел даклада характарызуе працу навуковага гуртка, які налічвае 24 асобы. Перад членамі навуковага гуртка пастаўлена адказнае заданне: распрацоўка матэрыялаў аб беларускім нацыянальным руху, асабліва міжваеннага 20-годдзя, пытанняў беларуска - польскага супрацоўніцтва ў галіне культуры, літаратуры, эканомікі, некаторых праблем Беластоцкага ваяводства, а таксама іншых пытанняў, звязаных з жыццём беларускай нацыянальнай меншасці. Амаль усе гэтыя пытанні распрацаваны яшчэ недастаткова, таму члены гуртка, узнімаючы тую ці іншую праблему, бяруць на сябе вялікую адказнасць. Прыводзім некалькі прыкладаў. Дзеяч КПЗБ А. Бэргман распрацоўвае тэму беларускага нацыянальнага руху на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Б. Нікіцюк закончыў чарговую працу аб лясных забастоўках у Сакольскім і Беластоцкім паветах. Е. Вішнеўскі падрыхтаваў да друку працу аб засяленні падляшскіх зямель.

Заданнем БГКТ у гэтай галіне з'яўляецца далейшае прыцягванне як найбольшай колькасці навукоўцаў з розных галін і выкарыстоўванне іх у дзейнасці нашай арганізацыі.

Даклад падрабязна ахарактарызаваў дасягненні, недахопы і заданні рэдакцыі «Нівы», радыёперадачы, выдавецкую дзейнасць, працу лектарскай групы, выступленні эстрады «Лявоніха», а таксама рэпертуар БГКТ для аматарскіх гурткоў. Рэпертуарам на беларускай мове (35 п'ес), які нашае таварыства бясплатна распаўсюджвае, карыстаецца кожны сезон больш ста самадзейных калектываў.

Асабліва моцна падкрэслівалася ў дакладзе супрацоўніцтва БГКТ з усімі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі ў галіне культурна - асветнай працы. Аб гэтым сказана наступнымі славамі: неабходна нам звярнуць асаблівую ўвагу на супрацоўніцтва

(Працяг на стар. 2)



УДЗЕЛЬНІКІ ПЛЕНАРНАГА ПАСЯДЖЭННЯ.

# ДЖОН КЕНЕДЗІ

22 лістапада ў горадзе Далас у час перадвыбарчага падарожжа ад кулі забойцы загінуў прэзідэнт ЗША Джон Кенедзі. Вестку аб гэтым усе людзі прынялі з глыбокім смуткам, незалежна ад іх палітычных перакананняў і поглядаў на палітыку Вашынгтона. І гэта зусім зразумела, бо кожны нармальны чалавек рашуча асуджае забойства як форму палітычнай барацьбы. З другога боку, з асобай Кенедзі вяжуцца бясспрэчныя дадатныя змены ў загранічнай палітыцы ЗША.

Вось некалькі фрагментаў з жыцця трагічна загінуўшага прэзідэнта. Кенедзі быў наймалодшым сярод 36 дагэтуляшніх шэфаў амерыканскай дзяржавы.

Нарадзіўся 29 мая 1917 года ў Брукліне ў сям'і багатага капіталіста. Бацька яго даўжэйшы час быў паслом ЗША ў Лондане. Джон Кенедзі, таксама, зрэшты, як тры яго браты і тры сястры, атрымаў добрую адукацыю. Ён закончыў найбольш знаны ў ЗША Гарвардскі універсітэт. У намерах бацькоў Джон меў быць публіцыстам і палітыкам. Да высокіх дзяржаўных пасад рыхтаваўся яго старэйшы брат Іозэф. Але гэта не збылося. Брат загінуў на фронце ў час II-ой сусветнай вайны. Джон Кенедзі таксама быў салдатам. Ён як камандзір падводнай лодкі змагаўся супроць японцаў на Ціхім акіяне. У час вайны быў цяжка ранены ў пазваночнік і да канца жыцця застаўся інвалідам. Ён быў вымушаны насіць спецыяльны гарсэт.

Пасля выхаду са шпіталя ў 1946 годзе, маючы 29 год, Джон Кенедзі пачаў сваю палітычную кар'еру ад працы ў якасці журналіста. У гэтым жа годзе быў выбраны ў Палату Прадстаўнікоў Кангрэсу, дзе прадстаўнічыў на працягу двух кадэнцый. А ў 1953 годзе быў выбраны ў Сенат. У час свайго падарожжа па Еўропе сенатар Кенедзі між іншым наведаў нашу краіну. У студзені 1960 года, перамагаючы ў выбарах прадстаўніка рэспубліканцаў — Ніксана, Джон Кенедзі быў выбраны прэзідэнтам ЗША.

Гісторыя несумненна карысна ацэніць дзейнасць трагічна загінуўшага прэзідэнта. Але ўжо сёння можна сказаць, што Кенедзі быў дэмакратам і гуманістам. У час яго кароткай кадэнцыі над Амерыкай павеяў вецер грамадскага прагрэсу, які надарваў карэнні тамтэйшага фанатызму і расізму. Прозвішча Джона Кенедзі знойдзе месца ў гісторыі ЗША побач такіх прэзідэнтаў, як Вашынгтон — пачынальнік дзяржавы, Лінкольн — вялікі абаронца права, таксама замардаваны ці Рузвельт — антыфашыст і дэмакрат. У час свайго прэзідэнцтва Джон Кенедзі зрабіў дзве вялікія справы ва ўнутраным жыцці Амерыкі. Ён стварыў праўныя асновы для ліквідацыі пануючага на поўдні і захадзе ЗША расізму і аддзяліў усе веравызнанні і касцёлы ад дзяржаўных інстытуцый. У заграначнай палітыцы Кенедзі на практыцы рэалізаваў прынцып мірнага суіснавання, хоць вядома, як выхаванак свайго класа, ён не быў прыхільнікам камуністычнага ладу. Падпісанне маскоўскага дагавору аб частковай забароне ядзерных выпрабаванняў, а таксама шэраг прамоў Кенедзі сведчаць, што ён хацеў утрымаць мір і дружалюбнае сужыццё паміж людзьмі.

Сёння ўжо вядома, што прыгавор смерці на прэзідэнта выдала цёмная амерыканская рэакцыя, якая супрацівілялася яго дэмакратычным унутраным рэформам і мірнай заграначнай палітыцы. Гэтая ж рэакцыя, намагаючыся адхіліць ад сябе закід забойства, абвінавачвае ў ім амерыканскія прагрэсіўныя сілы. Аднак дарэмныя намаганні. Калі ў гэтыя трагічныя дні глядзець на жыццё Амерыкі нават праз прызму яе друку, то відаць, што разбуджаныя Джонам Кенедзі ідэі прагрэсу і міру апанавалі асноўную большасць народа. У гэтым менавіта заключаецца вартасць кароткай дзейнасці прэзідэнта Кенедзі.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# ЗА ДАЛЕЙШЫЯ ПОСПЕХІ

(Працяг са стар. 1)

з усімі арганізацыямі і ўстановамі, якія працуюць у беларускім і змешаным асяроддзях. І гэта супрацоўніцтва павінна быць планавым, прадуманым, сталым. У сувязі з гэтым лічым неабходным, каб нашыя павятовыя аддзелы БГКТ навязалі канкрэтнае супрацоўніцтва з усімі павятовымі праўленнямі палітычных і грамадскіх арганізацый, а гурткі БГКТ супольна разгортвалі культурна - асветную дзейнасць з усімі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі ў сваёй вёсцы, каб разам уключаліся ва ўсе хвалюючыя справы свайго асяроддзя.

Пасля даклада разгарнулася вельмі ажыўленая дыскусія, у якой узяло ўдзел 12 асоб.

Францішак Берніковіч падкрэсліваў, што вельмі важнае выхаваўчае значэнне будзе мець беларускі музей, для якога ўжо збіраюцца экспанаты. Звярнуў ён таксама ўвагу на неабходнасць рэцэнзій адносна паасобных апублікаваных прац членаў навуковага гуртка.

Аляксандр Харкевіч падкрэсліў патрэбу разгортвання ініцыятывы вясковых гурткоў БГКТ, якія могуць многа зрабіць у галіне працы грамадскім чынам і культурна - асветнай працы.

На жаль, яшчэ не ўсе гурткі БГКТ ведаюць аб усім тым, чым займаецца аварыства, якія мае дасягненні ва ўсіх галінах сваёй дзейнасці. Таму неабходна на гэтую тэму дасылаць матэрыялы ў аддзелы БГКТ, якія маглі б інфармаваць аб гэтым гурткі. Вось гэтую справу закрануў член праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ Васіль Дзун.

Некаторыя члены Галоўнага Праўлення гаварылі аб недастатковай апецы ГП і павятовых аддзелаў над гурткамі ў некаторых мясцовасцях. Аляксандр Баршчэўскі звярнуў увагу на Сямяціцкі павет, Кляшчэлі і Белавежу, дзе гурткі БГКТ развальваюцца, дзе ёсць вялікае незразуменне ў нацыянальных справах. Туды, — гаварыў ён, — неабходна накіроўваць часцей эстраду «Лявоніху», туды неабходна накіроўваць нашых лектараў, літаратараў на аўтарскія сустрэчы, туды неабходна часцей ездзіць інструктарам ГП, журналістам. Там неабходна насіліць палітычна - выхаваўчую работу.

Але каб палітычна - выхаваўчая работа давала лепшыя вынікі, адчуваецца патрэба ўзбагачэння ведаў актыву БГКТ з марксісцка-ленінскай тэорыі. Ёсць патрэба, — гаварыў у сваім выступленні старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ Юрый Туронак, — арганізаваць семінары, адчыты, дыскусійныя сходы, на якіх былі б выяснены на мясцовых прыкладах пытанні інтэрнацыяналізму, патрыятызму, нацыяналізму, асіміляцыі, сужыцця нацыянальнасцей і г. д.

Многа крытычных заўваг было накіравана ў адрас рэдакцыі «Нівы» і персанальна яе галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага.

У дыскусіі ўзяў таксама слова сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП тав. Вітальд Мікульскі і кіраўнік аддзела ўнутраных спраў Ваяводскай рады нарадовай Антоні Рошка.

Пленарнае пасяджэнне ГП закончылася прыняццём пастановы, накіраванай на паляпшэнне палітычна-выхаваўчай працы сярод членаў БГКТ і беларускага асяроддзя.

М. СВАЯК

# Хроніка

■ 18 лістапада ў Іраку ізноў адбыўся ўрадавы пераварот. Ад імя арміі ўладу ўзяў у свае рукі прэзідэнт Арыф.

■ 21 лістапада Агульнае пасяджэнне ААН прыняло дэкларацыю, якая рашуча асуджае ўсе формы расавай дыскрымінацыі.

■ 25 лістапада выехаў з візітам у Аб'яднаную Арабскую рэспубліку Міністр замежных спраў ПНР Адам Рапацкі.

■ 24 лістапада ў Бухвалове каля Саколкі адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка - абеліска ў памяць памардаваных фашыстамі і рэакцыйнымі бандамі людзей у 1943—44 гадах.

■ 20 лістапада судовыя ўлады сталіцы Аргентыны прызналі нязгоднымі з канстытуцыяй усе дэкрэты, накіраваныя супроць камуністаў. У выніку гэтага адкрыты паўторна Дом Аргентынскай Лігі барацьбы за правы чалавека.

■ 30 верасня насельніцтва нашай сталіцы — Варшавы — перасягнула лік 1.213.000 асоб. У Варшаве пражывае на 88.200 жанчын больш, чым мужчын.

■ 19 лістапада агенты кангійскай бяспекі затрымалі ў Леапальдвілі і пабілі двух савецкіх дыпламатаў — Барыса Вароніна і Юрыя Мякатных, а некалькі дзён пазней затрымалі савецкага журналіста. Гэты рэдка сустраканы інцыдэнт выклікаў зразумелы пратэст савецкага ўрада.

■ 20 лістапада з Масквы на Антарктыду вылецела эскадрылля савецкіх самалётаў «ІЛ—18». Яны праляцяць трасу 25 тысяч кіламетраў над чатырма кантынентамі.

# Спорт

## Спорт для адпачынку

Добра ведаем дзейнасць спартыўных клубаў. Ведаем, што мае, напрыклад, беластоцкая Гвардыя, што прадстаўляе сабой элцкі Мазур, якія секцыі існуюць у Ягелёніі ці гайнаўскай Пушчы. Балельшчыкі падрабязна ведаюць жыццё «спартыўных зорак», памятаючы амаль кожны рэкорд і хто каго пабіў, хто колькі мае гадоў, колькі забіў голаў і г.д. На спартыўных сустрэчах дагаварваюцца спаткацца сотні людзей. Не менш людзей збіраецца каля радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, каб напружана сачыць за полем ці рынгам. Але ці толькі гэта гаворыць аб папулярнасці спорту?

Многія імкнуцца да таго, каб фізічная культура была толькі разрыўкай, адпачынкам пасля цяжкай працы. Без крыклівых стадыёнаў, на тэрыторыі аднаго прадпрыемства. Гэтыя мэты ставіць перад сабой і Таварыства распаўсюджвання фізічнай культуры. У мінуўшую нядзелю ў кавярні Прафсаюзаў адбылося пашыранае пленарнае пасяджэнне Ваяводскага праўлення ТККФ, прысвечанае праблемам фізічнай культуры і адпачынку на прадпрыемствах, а таксама спосабам адзначэння 20-годдзя ПНР.

Як вырашаюцца гэтыя праблемы, расказвалі прадстаўнікі гурткоў ТККФ, якія згуртоўваюць на Беласточчыне каля 9 тыс. асоб.

Кіраўнік гуртка «Клубовы» ў Беластоку, мілая пані, паінфармавала, што гурток зарабіў каля 10 тыс. злотых. Грошы прызначаны на пашырэнне далейшай дзейнасці гуртка. Гэта быў добры адказ прадстаўнікам тых гурткоў, якія наракалі на недахоп грошай.

Добра развіваецца спорт і турыстыка ў гуртку «Банковец» у Беластоку. Там гуляюць у футбол, пінпонг, шахматы, была арганізавана спартакіяда, а ў нядзелі ўсе нават едуць на «зялёную траўку». Хутка там будзе арганізавана і 10-мінутная гімнастыка ў час працы. Гурток карыстаецца поспехам ва ўсіх працаўнікоў, не гледзячы на ўзрост

Як бачым, хто хоча, той можа зацікавіць людзей спортам. Не тым, дзе змагаюцца за рэкорды, а тым рэкрэацыйным, для адпачынку, з выездамі за горад і прагулкамі ў лес ці на рэчку. Кожнае прадпрыемства можа (і павінна) арганізаваць у сябе гурток ТККФ.

Л. Тарасевіч

# „САТУРН”

Васіль Ардамацкі

Пераклад Хведара Асіпчука

Была тая пара восені, калі нават у сонечны дзень адчувалася, што зіма ўжо стаіць за дзвярыма. Хмызняк скінуў лісце, балота добра і далёка праглядалася. Гэта вельмі непакоіла Маркава. На выспе, на якой размясціўся атрад, быў заведзены парадак, каб днём нішто не выдавала прысутнасці тут людзей. Атрад меў пераходзіць на зімовую базу, якая была падрыхтавана ў суседнім лесе. Ужо там нават частка байцоў Будніцкага жыла. Усе астатнія павінны былі перабрацца на новае месца ў найбліжэйшыя дні, — чакалі непагадзі, калі ў небе не будуць кружыць нямецкія самалёты - разведчыкі. Па начах байцы Будніцкага пераносілі туды маёмасць і боепрыпасы.

Ніхто на выспе так не чакаў гэтай непагадзі, як чакаў яе Рудзін. Калі выспу пакінуць усе яе жыхары, пачнецца і яго аперацыя. Пачаткам яе будзе фікцыйны бой. У час гэтага бою Рудзін і здасца ў палон.

Трапіўшы да гітлераўцаў, Рудзін павінен зрабіць усё, каб яны ім зацікавіліся. Дзеля гэтага была распрацавана падрабязная і імпануючая немцам

30

легенда яго жыцця і лёсу. Галоўная ж яго мэта — дабіцца, каб ім зацікавіўся «Сатурн», а там трапіць на допыт да Андросава. Даўно прадумана мноства варыянтаў паводзін Рудзіна на допыце ў «Сатурне», але ўсе яны маглі аказацца непрыдатнымі, калі яго намаганні зацікавіць сабой «Сатурн» ні да чаго не прывядуць. Думка аб магчымасці такога звароту была так страшнай, што ў параўнанні з ёй сам допыт у «Сатурне» выдаваўся Рудзіну зусім няцяжкім. Хоць ён дасканала разумеў, што допыт гэты можа закончыцца і тым, што Андросаў адправіць яго на шыбеніцу...

І вось прыйшла чаканая непагадзь. Маркаў загадаў падрыхтавацца да начнога маршу і да бою ля вёскі Нікольскае.

Калі атрад выконваў загад, у штабной зямлянцы гутарылі Маркаў і Рудзін.

— Адзінае, што мяне прыгнятае, — сказаў Рудзін, барабанячы пальцамі па стале, — гэта немагчымасць кіраваць падзеямі пасля таго, як я траплю ў палон.

— Гэта не зусім так, — спыніў яго Маркаў. — Усё, што мы робім для таго, каб выклікаць да вас цікавасць гітлераўцаў, гэта кіраванне ходам падзей. Усё залежыць ад таго, які ён з сябе той немец, з якім вы ў кожным паасобным выпадку будзеце мець справу. І для кожнага трэба ўжываць сваю тактыку. Яны адразу зацікавяцца вамі, пачуўшы вашу пышную нямецкую мову. А як толькі цікавасць узнікне, усё далейшае будзе залежаць ад вас... — Гаворачы гэта, Маркаў дасканала разу-

31

меў, што ўсё гэтае не так проста, галоўнае, ён разумеў, што Рудзін ідзе на подзвіг, які можна лічыць смяротным. Яго могуць проста прыстрэліць, нават не ўзяўшы ў палон. Яго, як партызана, могуць ліквідаваць, не дастаўляючы ў лагер ваеннапалонных ці ў турму, не гаворачы ўжо аб тым, што смерцю можа закончыцца і яго сустрэча з Андросавым. Можа здарыцца самае прымітыўнае: Андросаў проста спалохаецца і адмовіцца ад прапановы Рудзіна працаваць на савецкую разведку і для таго, каб яшчэ больш узвысіцца ў вачах начальства, выдасць Рудзіна, не баючыся ніякіх пагроз з яго боку. Маркаў дасканала разумеў, на што ідзе Рудзін і ведаў, што сам Рудзін таксама добра гэта ведае і разумее. Ён цяпер злаваўся на сябе, што не можа пагаварыць з ім шчыра, каб Рудзін бачыў, як ён па-чалавечы непакоіцца за яго.

Рудзін выняў з кішэні запячатаны і надпісаны канверт і, палажыўшы яго на стол, сказаў:

— Просьба: калі загіну, жонцы і бацькам маім пісьмо перашліце не адразу. Хай больш убачаць навокал гора чужога, тады і сваё пакажацца ім лягчэйшым. — Рудзін сказаў усё гэта проста, без ніякай позы, і паглядзеўшы ў вочы Маркаву, спытаў: — Зробіце?

— Зразумела. Ды толькі лепш аб гэтым думаць менш.

— Чаму? — падняў бровы Рудзін і паглядзеў у вочы Маркаву.

(Працяг на стар. 4)

32

 

Аўтаномная старонка літаратурна-мастацкага аб'яднання
„Белавежа"
№ 60

# ПІЛІПУ ПЕСТРАКУ 60 ГОД

27 лістапада споўнілася шасцідзесятая гадавіна з дня нараджэння Піліпа Пестрака. Яго багаты творчы шлях стаў у беларускай літаратуры сінонімам самаадданага служэння народным інтарэсам.

П. Пестрак быў моцна звязаны з працоўнымі масамі былых заходніх абласцей Беларусі, дзе правёў гады цяжкіх выпрабаванняў. Ужо ў ранні перыяд паэтычнай творчасці ён выступіў як выразнік настрояў прыгнечанага беднага сялянства, з якога і сам паходзіў. Моцна гучаць радкі першых вершаў паэта, выступіўшага ў літаратуры ў другой палове 20-х гадоў. Ужо ў паэтычным дэбюце — творы «Наперад, гэй...», змешчаным у 1927 г. у часопісе «Родныя гоні» пад псеўданімам «Звястун», П. Пестрак паказаў сябе чалавекам непахіснай веры ў перамогу справядлівасці:

Дзе серп лішчыць, звініць каса,
Дзе льецца пот крывавы,
З рассветам змые усё раса —
Там будзе поле славы.
І на прасторах родных ніў
Культуры сцяг паставім, —
Дзе кут улады закляйміў,
Там вольнасць мы праславім.

Паэт дасканала разумеў прызначэнне паэзіі, яе ролю ў грамадска - палітычным жыцці мас. Таму яго дaвераснёўская творчасць шчыльна прымыкала да рэвалюцыйна - вызваленчай барацьбы народа, будзіла яго гнеў і заклікала да звяржэння ненавіснай улады. Такім быў Пестрак і ў турэмны час, калі яго маладыя гады праходзілі за мурамі віленскіх Лукішак. Тут таксама не змаўкала яго муза. Як сам успамінае, турэмная адміністрацыя забараняла карыстацца якімі - небудзь пісьмовымі прыладамі. У такіх умовах цвік заступаў аловак, а цагляная сцяна — паперу. Многія вершы насіў Пестрак у памяці, каб пазней, пры спрыяльных абставінах, перадаць іх на волю.

Палымяныя радкі паэта аб лепшай будучыні глыбока западалі ў сэрцы народа. Карыстаючыся алегорыяй, паэт у адным са сваіх вершаў так піша:

Па ніве я іду — абсуджаны сявец.
Насенне кідаю адважнаю рукою
На згубу ворагу, на радасць лепшых дзён...
(«Восень», 1936)

Прыход гэтых лепшых дзён наступіў з 1939 годам — з вызваленнем заходніх абласцей Беларусі. Новая рэчаіснасць навеяла Пестраку новыя тэмы і матывы ў творчасці.

У гады Вялікай Айчыннай вайны бачым паэта ў партызанскім атрадзе, а пазней у рэдакцыі «Партызанскай праўды», з якой супрацоўнічаў. У гэты суровы час родзяцца творы, прасякнутыя нянавісцю да гітлераўскіх захопнікаў і адлюстроўваючыя гераічную барацьбу народа супраць лютага ворага. П. Пестрак, як і ў давераснёўскі перыяд, бачыць сваё прызначэнне ў служэнні народу, з якім дзеліць яго радасці і гора.

Пасляваенныя гады азнаменаваны новым уздымам у творчасці. Бярэцца ён час ад часу і за прозу, дзе дае карціны партызанскай барацьбы ў гады вайны. Гэтай тэме прысвячае свой першы буйны твор — аповесць «Пачатак» (1948 г.), спрабуючы ў ім даць эпічны паказ першых дзён партызанскага руху на Беларусі. Разам з тым пісьменніка хвалюе іншая тэма — тэма змагання працоўных у былой Заходняй Беларусі супраць санацыі. Амаль пяць год працаваў ён над раманам «Сустрэнемся на барыкадах», дзе разгарнуў перад намі незабыўную карціну падзей у даверасьнёўскі час. Гэты вялікі твор ахапіў сабою багаты, назапашаны гадамі, жыццёвы матэрыял. Раман стаў нагляднай мастацкай ілюстрацыяй таго, як камуністычныя ідэі акрылялі працоўныя масы і вялі іх па адзіным правільным шляху непрымірымай

**(Працяг на стар**

# ШЛЯХІ — ДАРОГІ

Дарогі бываюць розныя. Адны з іх вядуць у вялікі горад, другія, пятляючы сярод парэзанай зямлі, прыводзяць у вёскі, дзе драўляныя хаты, пахіліўшыся на бок са старасці, стаяць пад разгалістымі клёнамі ды бярозамі. Дарога, па якой ён ішоў бледны, з расшпіленым плашчом, пралягала сярод густога лазняку і дзе-нідзе трапляючыхся крывых, выгнутых бяроз, што гублялі кроплі ранішняга дажджу. Ён не знаў, куды вядзе гэтая дарога. Ішоў, таму што адчуваў патрэбу недзе ісці. Поезд, што затрымаўся быў на хвіліну - дзве сярод поля, грукацеў ужо дзесьці далей.

А ён ішоў. Проста так, не ведаючы куды, чаго і чаму. Ён хацеў уцячы, схавацца, забыцца. Зрубаная ці зломаная ветрам галіна парахнявай бярозы загарадзіла яму дарогу. Ён толькі тады прыкмеціў, што ўвайшоў у лес. Затрымаўшыся, ён агляну́ўся назад, паглядзеў навокал... І першы раз сёння ўсміхнуўся. На ёлцы, сярод галінак, сядзела рыжая, пушыстахвостая вавёрка. «Што, вавёрачка, глядзіш? — запытаў ён. — Уцякаеш? І ты ўцякаеш... Ну, твая справа...»

Ён ужо было павярнуў назад, але, убачыўшы побач маленькую белую бярозку, падышоў да яе, лёганька пагладзіў лісточкі і сеў на пень змуршэлай ёлкі. Ён быў адзін, сам-насам са сваімі думамі. Не было дапытлівых і насмешлівых вачэй знаёмых, не чуваць было шэптаў, хіхікання, штодзённых абгавораў. Цішыня стаяла надзвычайная... Аддыхалася вольна, шырока. Птушкі вялі сваю штодзённую размову аб вясёлым, добрым сонцы, што грэла ўжо даўно і сушыла зямлю па начной буры-навальніцы.

...Учарашні вечар стаяў яму перад вачыма. Зразумела, свінства! Ну, якое ў яго было права гэтак зрабіць? Ды і права тут не знойдзеш. І ў чым яны вінаваты, хлопцы і дзяўчаты? Як цяпер глядзець ім у вочы? Бываюць жа хвіліны, калі чалавек не ведае, што робіць і гаворыць. Зробіш — не вернеш. Было, прайшло, мінула, не затрымаеш... Сорам, ды дзе дзецца? Зрабіў — адказвай! Ды толькі як? А калі сябры не зразумеюць? Але ж яны сябры... І пачалося ўсё гэта неяк нечакана, раптоўна, непатрэбна...

Ліст быў у сінім, памятым канверце з выразным штампам «Быдгашч, 12.08.1963 г.» Прышоў ён бязлітасна ўварваўшыся ў яго ціхае, спакойнае жыццё. Ён прыехаў было якраз дамоў на дзянькі два—тры. Знаёмыя, сябры загадзя радаваліся сустрэчы з ім.

Тое, што здарылася, зрабіла яго ў вачах усіх грубіянам, чалавекам, з якім небяспечна займацца. І ўсё пачалося ў дзень яго прыезду. Сабраліся хлопцы, дзяўчаты, чакаюць, вось-вось, поезд падыдзе... Уваходзіць ён; Зіна, даўно сохнуўшая па ім, сустракае яго з букетам, а ён стае на парозе, аглядае ўсіх, не вітаючыся, і кажа:

— Кіньце вы гэтыя штучкі... І наогул, — гаворыць далей ён і быццам прывязвае ўсіх нейкімі нябачнымі вяроўкамі да падлогі, — чаму і навошта гэты маскарад, гэтыя сардэчнасці?

— Вася! — ускрыквае плачліва маці, але ён перабівае:

— Васю, мама, сапраўды сёння 27 год, але гэта не аказія для нейкага зборышча... Дарэмна ты, мама, старалася, — паказваючы на застаўлены стол, гаворыць ён.

— Вася, людзі прыйшлі ад шчырага сэрца, — не здавалася маці.

— А ў каго тут шчырае сэрца, пакажыце?! Гэта перажытак, мама! Было, сплыло. Цяпер усё з разлікам, цяпер свет паразумнеў... Ты думаеш, мой дзень нараджэння ім патрэбен? Ды я сам, сам, мае сябры, што высокія пасады займаюць! А я гэтага ненавіжу во як! — гаварыў, захлёбваючыся, Вася. — І ідзіце вы дамоў лепей, а? Нічога тут не будзе. Ніколі ў гэты дзень нічога тут не будзе... Ніколі і нічога!...

Ён прайшоў у спальню, стукнуў дзвярыма, закрыўся на ключ. Затрашчалі пружыны ў старым тапчане і хутка ўсё заціхла. Радыё толькі сумна паўтарала: «Ты помніш? Была восень...»

Калі ён расплюшчыў вочы, у пакоі, за сцяной, было ціха. У кухні вазілася з гаршчкамі маці. Як выйсці да яе, загаварыць?!.. Ён усхапіўся; хтосьці паціхеньку стукаў у дзверы. Вася павольі ўстаў, нерашуча адчыніў іх і зноў лёг, залажыўшы рукі пад галаву. Яго вялікія чорныя вочы — галкі нерухома глядзелі кудысьці далёка-далёка. Увайшоў Пеця, ліцэйскі сябра, настаўнік мясцовага ліцэя. Ён стаў каля акна і сказаў, не гледзячы на Васю:

— Навальніца будзе вялікая. хмары ўжо збіраюцца... Ты, — звярнуўся ён раптам да Васі — калі ад'язджаеш?

Той не адказаў; хвілін некалькі яны маўчалі. Вася баяўся, што Пеця пойдзе, і загаварыў:

— Няйнакш за ідыёта вы мяне палічылі... Дзе ўсе, пайшлі? Ну, цяпер гэта ўжо ўсё роўна... Дзякую, што... застаўся... ты...

І ён раптам заплакаў. Пеця глядзеў на яго без слова. Чорныя Васевы вочы блішчэлі, мільгалі крыштальна - серабрыстым бляскам. Ён ціха гаварыў:

— Нават і табе ўсё роўна што са мной, нават і ты не зацікавішся, чаму я такі!..

— Ну што я тут памагу? Веру, што здарылася нешта сур'ёзнае, тваё, асабістае. Маўчу, таму што табе сёння трэба пабыць аднаму...

— Аднаму! Зноў аднаму! А ці знаеш ты, што я ўсё сваё жыццё адзін, як палец, жыву? Ды і то, пальцаў пяць, яны разам заўсёды! А я?! Нават ты!..

— Ну што тут з мяне? Я, сапраўды, многа ведаю аб табе, але... Ды ці гэта першы раз гутарка ў нас з табой? Прасіў, маліў — кінь, забудзь, не варта яна цябе і тваіх думак, а ты?.. Вось і рабят абразіў, кашы-баршчу наварыў, што ўвек не з'ясі. І ўсё дзеля каго? Дзеля чаго? Дурата гэткая падстаць васемнаццацігадовым юнцам, ты ж... А, зрэшты, што тут і думаць — гаварыць; здарылася — шукай выхаду!.. Да заўтра! — І Пеця ўжо быў ля дзвярэй. — А кампанія не злуе, факт! — адварочваючыся, сказаў ён. — Маці скрыўдзіў, дзіка гэта...

Вася застаўся адзін. Ён ляжаў, услухоўваючыся

**(Працяг на стар. 5)**

## Абвяржэнне

У папярэдняй «Літаратурнай старонцы» было надрукавана апавяданне С. Заставіна, у якім прозвішча галоўнага героя супала з мянушкай існуючага чалавека. Гэта супадзенне прыпадковае. Апісаныя ў апавяданні факты з'яўляюцца літаратурнай фікцыяй.

# Biesiada

У папярэднім нумары мы пісалі аб Эміліі Кунавіч і яе аповесці «Ненасытныя сэрцы», у якой аўтар тэму пачэрпнуў з жыцця заходнебеларускай вёскі ў міжваенныя гады. Сёння публікуем фрагмент гэтай аповесці. «Ненасытныя сэрцы» з'явяцца ў друку ў 1964 г.

*— Pajedziem u cerkwu dzicia chreścić — mówi Apanas. — Tolki piersz zakusić treba.*

*Stół jest długi, po obu bokach siedzą goście. Tyle ludzi! Nie wiem jakim sposobem Apanas tak rozszerzył ściany swojej chaty. Ja siadam blisko ikony i pochylam się nad stołem, żeby zobaczyć gdzie siedzi Aniutka. Widzę jej profil i czarną rzęsę kryjącą oko.*

*Między nami siedzi matka Aniuty.*

*Z drugiej strony siedzi koło mnie Hanula, a naprzeciw nas Jurka i Jaszka i jacyś nieznajomi chłopi.*

*— Jesz kuma, jesz kuma — zachęca Jaszka Hanulę. Jest pijany. Zwalił się na stół, podsuwa Hanuli talerz z marynowanymi czy solonymi grzybkami. Hanula z potulnym uśmiechem stara się złowić jednego borowika swymi sztywnymi palcami. Grzybek jak żywy wymyka się i pstryk, pstryk, skacze sobie po talerzu.*

*— A szto! nia ułowisz! — śmieje się Jaszka.*

*— Ja lepsz miodu... — szepcze wstydliwie Hanula.*

*— Miodu kuma choczasz? — rozgląda się po stole rozochocony Jaszka. Czego tu nie ma! Misy kiełbas, szynki nakrajanej ogromnymi kawałami, ogórki kiszone, „jajesznica", sery, masło, piroh jasny jak słońce. Butelka samogonki krąży powoli w koło. Jeden kieliszek, ot sobie mała szklaneczka przechodzi z rąk do rąk. Sąsiad pije do sąsiada i dalej. Jaszka szuka miodu. Jest jeszcze talerz z resztkami. Chłopisko chwyta go i nakłada Hanuli na głowę. Stół jest wąski. Jaszka stoi w całej swej okazałości i wyciera talerz z miodu o włosy swojej kumy.*

*— A bo... — śmieje się Hanula wstydliwie. — Ale kum śmieszny.*

*— Cha-cha-cha — śmieją się wszyscy przy stole. Co za wspaniały żart. Dowcipny jest ten Jaszka.*

*Staram się też być wesołym, nie idzie mi jednak. Pustka, martwa cisza w tym gwarze. Wsłuchuję się i czuję jak z grubych bierwion ścian, a może z powietrza czy też zamroczonych głów zaczyna się sączyć melodia. Inni też tężeją w nadsłuchiwaniu i już odnajduje ją świadomość człowieka.*

*— Adzin kuuuumu skrypeczku ihraje — zaczyna znachor miękkim głosem. Jaki to jednak wspaniały chłop. Czy on nigdy się nie postarzeje? — Adzin kuuum u skrypeczku ihraje. —*

*— Druhi kuuum kumu namaulaje — podchwytuje tłum biesiadników.*

*Wyciągam rękę ku Aniucie. Wstajemy i wychodzimy zza stołu. Jesteśmy chrzestnymi rodzicami. Pojedziemy chrzcić dziecko do cerkwi. Oni nie wiedzą przecież, że dziecka już nie ma, że pochowałem je pod kamieniem. Im jest dobrze tak, jak jest. Czarka krąży wokół stołu, samogoneczka-siostrzyczka. Szymon ma dużo samogonki. Można u niego dostać, jak zabraknie. Ten Szymon, o którym mój Wasil napisał: „Pamaleńku, pacichońku hnau Szymonka samahonku". Szymona nie ma między biesiadnikami. Pewnie siedzi przy aparacie. To dobrze. Zapije chłopów, nie będą mnie tyle krytykować.*

*— Kiń kumaaaa dzicia u krapiwu — śpiewają przeciągle goście przy stole. Mgłą zachodzą im oczy z tęsknoty. Za czym oni tęsknią? Czego im jeszcze brak? Mgłą zachodzą im oczy z rozkoszy, bo śpiew jest jak narkotyk, jak sama morfina. Zapamiętują się w zawodzeniu, w wyśpiewywaniu swojej stęsknionej duszy. Za czym oni, do licha, tak tęsknią? Zatrzymuję się i choć trzyma w swojej ręce dłoń mojej miłej, nie ruszam się z miejsca, bo nurtuje mnie ten nie rozwiązany problem. Za czym tęsknią?*

*Znachor wychodzi zza ławy, i piękny, wysoki, barczysty, na brąz wypieszczony słońcem, z oczami jak przylaszczki, z tą swoją srebrną skronią starego rozpustnika podchodzi do nas, uśmiechając się ze zrozumieniem spierzchniętymi ustami.*

*— Kiń kumaaaa dzicia u krapiwu — nuci żartobliwie. Ujmuje jedną ręką kibić Aniuty, a drugą kładzie mi na ramieniu. — Idzicie dzietki, a to apazdajecie.*

**Працяг на стар. 4)**



 

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ХІМІЯ ДАЕ... БЯЛОК

Усё ідзе наперад, усё змяняецца. У кожнай галіне, у кожнай краіне, у жыцці і працы. У працоўнях і лабараторыях нараджаюцца новыя планы, падсумоўваюцца вынікі тысяч доследаў, робяцца вывады, апрацоўваюцца новыя метады. І так ужо сотні гадоў.

Больш пяцідзесяці год таму назад пачаліся доследы над азотнымі небялковымі злучэннямі, так званымі амідамі. Да іх належаць водныя амінакіслоты, аманійныя солі і іншыя злучэнні.

Было пастаўлена пытанне: ці гэтыя злучэнні выкарыстоўваюцца пры сінтэзе бялкоў? Першыя доследы не далі дадатніх вынікаў. Пад доследы (гэтым разам выбар быў не найлепшым) былі ўзяты свінні. Затым эксперыменты перанеслі на авечак і кароў. Гэта ўжо прынесла цікавыя вынікі.

Як гэта дзеецца, што жвачныя (буйная рагатая жывёла і авечкі) могуць выкарыстоўваць аміды, а іншая жывёла не? Уся таямніца заключаецца ў спецыяльнай будове страўніка. Справа ў тым, што ў рубцы ў іх знаходзіцца бактэрыйная флора. І якраз бактэрыі пераварваюцца ў страўніку, і такім чынам рагатая жывёла атрымлівае вартасны бялок.

Аб амідах я ўспамінаю якраз таму, што яны ўсё больш выкарыстоўваюцца ў кармленні жывёлы ў нашым ваяводстве. Атрымліваюць іх у выглядзе кармавой мачавіны. На Беласточчыне тры гады назад пачалі прымяняць кармавую мачавіну як дадатак да сіласа (3—4 кг на тону). Вельмі добры вынік дае прымяненне кармавой мачавіны як дадатак да іншых кармоў, напр., да высаладкаў.

Падаем спосаб прыгатавання корму. Кармавую мачавіну заліваем вадой, добра размешваем, каб не было грудак. Потым растворам паліваем раўнамерна зялёную масу, прыгатаваную на сілас. Мачавіна танная, проста прадукуецца і мае ў сабе шмат азоту.

Аміды будуць добра выкарыстоўвацца жвачнымі толькі пры ўмове, калі не будзем даваць жывёле шмат бялковых кармоў, якія маюць у сабе шмат вугляводаў. Апрача гэтага ў страўніку павінна быць багатая бактэрыйная флора. Таму вельмі карысна дадаваць кармавыя дрожджы.

Усе прамысловыя кармы, напр., модныя зараз мяшанкі, маюць у сабе дадатак кармавой мачавіны (толькі для жвачных). Таму гэтыя мяшанкі і маюць у сабе ў 2 разы больш бялкоў, чым зерне збожжа.

Праблема кармавых мяшанак і амідаў вельмі важная ў сувязі з пастаянным недахопам бялкоў у нашым ваяводстве. У найбольш ураджайны год пакрываюцца патрэбы ў бялках толькі на 60—70%. Таму і нізкая прадукцыя, таму і не маем вялікіх дасягненняў у жывёлагадоўлі.

к. М. СУХАЖЭБРСКІ



## З жыцця БГКТ

### УРАЧЫСТАСЦІ

У сувязі з 46 гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мілейчыцах адбылося ўрачыстае пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ, на якім члены праўлення сустракаліся з ветэранам Кастрычніка Васілём Бартнічуком з Мілейчыц (На здымку першы злева). Васіль Бартнічук вельмі цікава расказваў аб рэвалюцыйным Піцеры, дзе ён адбываў вайсковую службу на браняносцы «Андрей Первозванный» і прымаў удзел у гістарычных падзеях.

Тэкст і фота
**Сяргей Крэйза**

## Заканчэнне конкурсу спевакоў

У кастрычніку гэтага года Галоўнае Праўленне БГКТ правяло конкурс на найлепш выкананую беларускую песню. У конкурсе прыняло ўдзел 11 салістаў і адзін дуэт. Лепшыя выканаўцы песень выступілі ў мастацкай частцы ўрачыстага пасяджэння, прысвечанага гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Галоўнае Праўленне БГКТ узнагародзіла дуэт у складзе Любы Гаўрылюк і Жэні Мінько — 700 зл., Ніну Наумовіч — 350 зл, Надзю Дзмітрук — 250 зл.

Сярод удзельнікаў конкурса карысталіся вялікай папулярнасцю, апрача сучасных песень, народныя песні на роднай мове і мясцовым дыялекце. Вельмі шкада, што так мала было ўдзельнікаў конкурса.

**М. Л.**

## „НІВА" ДЛЯ СВАЯКОЎ І ЗНАЁМЫХ ЗА ГРАНІЦАЙ

**У лістах у рэдакцыю чытачы часта пытаюць: як выпісаць «Ніву» за граніцу для сваіх сваякоў ці знаёмых? Адказваем: вельмі проста. Падпіску на «Ніву» з высылкай за граніцу, як і ўсіх іншых часопісаў, якія выходзяць у Польшчы, прымае Przedsiebiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Dział Kolportażu Prasy Eksportowanej, Warszawa, ul. Wronia 23.**

**У гэтую ўстанову таксама трэба звяртацца і за інфармацыяй адносна падпіскі.**

**Каб пазбегнуць лішніх клопатаў, інфармуем, што «Ніву» за граніцу можна выпісаць на квартал, паўгода і год. Гадавая падпіска каштуе 40 зл. і 40 гр. Грошы трэба перасылаць на konto PKO Nr. 1-6-100024 — Warszawa, ul. Wronia 23 — P.K.W.Z. „Ruch" да дня 10-га кожнага месяца, папярэджваючага перыяд падпіскі.**

**На адваротным баку бланкета PKO трэба напісаць дакладны адрас заграмічнага адрасата, а таксама загаловак часопіса.**

## ДА СУПРАЦЬТУБЕРКУЛЁЗНЫХ ДЗЁН

# Сіла медыцыны + добрая воля людзей

Размова з дац. др. мед **УЛАДЗІСЛАВАМ ПРЭНГОЎСКІМ** — краёвым спецыялістам па справах замкнутага лячніцтва, кіраўніком клінікі туберкулёза лёгкіх Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку.

**— Зноў спатыкаемся з вамі, прафесар, на старонках «Нівы». Цешымся, што аказваеце нам увагу і служыце сваімі парадамі і вопытам. Знаходзімся на парозе супрацьтуберкулёзных дзён. З якімі вынікамі ідзем да іх, што зроблена за мінулы год?**

— Дзякуючы факту, што праблему туберкулёза ў нас менш як год таму пераняў Інстытут туберкулёза — орган спецыялістычны, мы можам гаварыць цяпер аб уласцівай пастаноўцы справы. Перш за ўсё выйшаў тут момант заразнасці туберкулёза, чаго раней не толькі людзі, але і медыцына не бачылі. Яшчэ і зараз туберкулёз афіцыйна не далучаны да заразных хвароб. Ён, праўда, рэдка выступае як вострая хвароба і гэта з'яўляецца прычынай таго, што людзі не здаюць сабе справы з небяспекі, не трапляюць на час да спецыяліста, каб хваробу можна было ліквідаваць ў зародку. У нашым ваяводстве ў першую чаргу спатыкаем небяспечныя постаці туберкулёза толькі таму, што ён не заўчасу быў адкрыты і неўласціва лечаны.

Свядомасць людзей тут вельмі важная, а ў нас прасвятляцца часта трэба прымушаць. Рана адкрыты і добра лечаны туберкулёз будзе вылечаны. Гэтым займаюцца павятовыя супрацьтуберкулёзныя лабараторыі. Яшчэ ў трох нашых паветах няма іх, але год таму нам нехапала шасці.

Праведзеныя мною і кантрольнымі групамі аналізы скіраванняў ў шпіталі і санаторыі выказалі, што многія хворыя не павінны там знаходзіцца. Гэта марнаванне цэнных месц. Асновы, якія мы ўвялі ў 1963 годзе адносна скіраванняў, наступныя: 1) кіраваць усіх новаадкрытых туберкулёзных хворых, якія выдзяляюць заразкі і 2) усіх хранічна хворых, здольных заражаць іншых. Усё зводзіцца да таго, каб давесці да такога стану, у якім хворыя не будуць заражаць здаровых.

Вялікае значэнне пры туберкулёзе мае ўласцівае лячэнне. Назіраем, што ўзровень яго павышаецца, і ў гэтым напрамку ідуць нашыя далейшыя намаганні.

**— Просім вас выказаць свае ўвагі адносна вёскі і асабліва аб ролі вясковых пунктаў аховы здароўя ў цікавячэй нас справе.**

— Мае назіранні над хворымі, кіраванымі з вёскі, паказваюць, што самыя цяжкія постаці туберкулёза знаходзім іменна ў людзей з вёскі. Прычына гэтага — і недастатковая сетка вясковых пунктаў здароўя, і вялікі навал работы ў вясковых лекараў, і нізкі узровень разумення справы самымі людзьмі.

Адно з важных заданняў, якія стаяць перад службай здароўя, грамадскімі камітэтамі барацьбы з туберкулёзам, а таксама перад грамадскімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць на вёсцы, — гэта як найшырэй усведамляць грамадства аб небяспецы туберкулёза. ЗМВ, Ліга жанчын, гурткі вясковых гаспадынь, гарцэрства — усе яны павінны актыўна прыступіць да стварэння, па крайняй меры, раённых грамадскіх супрацьтуберкулёзных камітэтаў. Інстытут туберкулёза здае сабе справу, што барацьба з туберкулёзам не можа абмяжоўвацца толькі да лекараў — фтызіятраў. Усе лекары, а перад усім лекары вясковых пунктаў здароўя, павінны лепш, чым дагэтуль, памятаць пра туберкулёзнага ворага. Таму і пастаўлена перад Польскім туберкулёзна - лёгкавым таварыствам заданне: дасканаліць вялікую колькасць лекараў па пытаннях туберкулёза. Туберкулёзныя клінікі медыцынскіх акадэмій і Інстытут дасканалення лекарскіх кадраў атрымалі спецыяльныя заданні ў гэтай галіне. Трэба спадзявацца, што ад наступнага года дасканаленне лекараў па асноўных пытаннях туберкулёза станецца штораз шырэйшым, так як і ўсведамленне шырокіх мас вясковага грамадства.

**— Паўтарыце нам яшчэ асноўныя абавязкі кожнага чалавека адносна туберкулёза.**

— Яго абавязак: праходзіць рэнтгенаўскі кантроль, рабіць прывіўкі сваім дзецям супраць туберкулёза і ў выпадку хваробы строга стасаваць наказы лекара.

Супрацьтуберкулёзная пастанова запэўніла ўсім грамадзянам бясплатнае лячэнне ў амбулаторыях, шпіталях, санаторыях, правенторыях і паўсанаторыях. Улады робяць шмат намаганняў у барацьбе з хваробай. Грамадства і грамадскія арганізацыі павінны памагчы гэтым намаганням, гэта значыць, гуртавацца вакол камітэтаў барацьбы з туберкулёзам і свядома, дабравольна праходзіць ўсе масавыя прафілактычныя акцыі. У такі спосаб супольна выйграем барацьбу за ўласнае здароўе.

Размаўляла
**Вера Леўчук**

# ШЛЯХІ — ДАРОГІ

(Прапяг са стар. 3)

**ў стук «ходзікаў» на сцяне. «Раз-два», «раз-два», «раз-два» — стукалі яны. Ён раптам ускочыў, быццам баючыся, што сіні канверт згіне з яго партфеля, паспешна дастаў яго, агледзеў. Тыя ж самыя скачучыя малыя літары з наклонам улева. У канверце была незамысловатая, звычайная, якіх у кіёсках горы цэлыя, паштоўка: «Віншую з днём нараджэння» і словы: «у 27 гадавіну нараджэння ўсяго, што шчасцем завецца». Дапіска ўнізе: «Калі будзеш у Нараўцы, да ракі падыдзі. Пагляздзі на бераг, дзе мы калісь сядзелі. Падыдзі да бярозы нашай, мо' ўспомніш былое, шчаслівае... Каця».**

**«Ах, Каця-Кацюша, — думаў ён. — Нябось, шкадуеш неабдуманых крокаў? Ты помніш, Кацюша, сваю любімую пагаворку: усё ў чалавечых руках? Чаму ж мы не разам. Гэта ж было ў нашых руках! Ты гаварыла, што не разумееш мяне, што я не знаю дзеля чаго** людзі жывуць на зямлі.. А ты ведала? Я тады бываў у вас. Твае бацькі любілі мяне, я гэта адчуваў. Я бачыў таксама, якой радасцю свяціліся твае вочы, як гарэлі шчокі, калі маці твая зварочвалася да мяне: «Дзіцяты мае роднае...» Памятаеш? Ты павінна памятаць гэта! Ты павінна!.. Хаця... Чаму павінна? І, наогул, ці, паводле цябе, чалавек мае нейкія абавязкі? Навошта яны? Ці не лягчэй жыць, каб жыць? От так, проста, жыві ды ўсё, праўда?... Ты цвярдзіла, што так лягчэй жывецца. І памятаць нічога не трэба, праўда? А, скажы, калі яно само памятаецца, тады як? Не бывае такога, кажаш?.. Таго вечара ты не забыла напэўна, не, я не паверу ў гэта! Мы вярталіся з тэатру, табе зрабілася раптам кепска... Ты магла забыць, як я глядзеў на цябе, як цудам нейкім знайшоў таксі і адвёз цябе ў бальніцу?! І доктар, мілая пані ў акулярах, мне тады сказала: «Не бойцеся, малады чалавек, нічога сур'ёзнага. Проста гэтак бывае, калі жанчына чакае дзіцяці...» Я помню твой твар. Белы, як палатно, твар ашуканца, разбеганыя, адзічэлыя ад сораму вочы... Ты і сказаць тады нічога не магла. Дзіця ж не было маім... Назаўтра ты ўцякла... Ад мяне, ад бацькоў, ад знаёмых. А ад сябе — ты куды схаваешся? Быдгашч выратуе?.. З кім ты там? Афіцыянтка ў рэстаране з тваім тэмпераментам далёка зайсці не можа, далёка... Што ж, прафесія ўсялякая добрая, калі сумленне ёсць...»

Вечар быў цёмны, з маланкамі і ліўнем. Не спалася. Ён адмовіўся ад вячэры. Маці пайшла к 22 гадзінам на фабрыку. Начная змена. І ён зноў быў адзін... Навальніца гудзела, паволі плылі шэрачорныя хмары... Калі ён прачнуўся, было пяць гадзін раніцы. Адзеўшыся, ён пабег на станцыю; поезд ужо соп, пыхкаючы. Застукалі калёсы, поезд ехаў. Пасажыраў было мала, знаёмых — яшчэ менш. Ён ехаў; куды — і сам не ведаў. Хацелася волі, прастору, хацелася сонца... Вася саскочыў на першым паўстанку. Вакол цягнулася поле. Шырокае, пустое, але прыгожае сваёй зеленню, якая паволі пачынала жаўцець, чырванець, рыхтавацца да восені...

...Калі ён апамятаўся ад павеву ветру, што скінуў яму на твар цэлую масу дажджавых краплін, сонца стаяла ўжо даволі высока. І Вася ад-

(Працяг на стар. 7)



**Унікайце тых, хто стараецца падарваць вашу веру ў магчымасць дабіцца чагосьці значнага ў жыцці.**

Марк Твен (псеўданім Самюэла Клеменса; 1835 — 1910) — выдатны амерыканскі пісьменнік.

## Ці ведаеце вы...

...што ў Індыйскім акіяне ёсць востраў, заселены адным толькі кошкамі. Харчаваннем для іх служыць рыба, якую яны ловяць у час адліву. Паводле прыблізных падлікаў, там цяпер жыве да 10-ці тысяч кошак. На бязлюдны востраў іх прародзічы трапілі ў час караблекрушэння.

ВЕСТКІ з БССР

## Ансамбль трактаразаводцаў

Народны ансамбль танца Дома культуры Мінскага трактарнага завода добра вядомы не толькі гледачам Мінска, але і шматлікіх іншых гарадоў рэспублікі. У 42 яго мастацкіх калектывах удзельнічае звыш 1300 асоб — аматараў харавога, танцавальнага, музыкальнага, драматычнага мастацтва. Сярод іх рабочыя самых розных прафесій і служачыя.

На здымку: выступленне самадзейных артыстаў на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у Маскве. Выконваецца беларускі народны танец «Лявоніха».

## ПАЎНАТА І ВАЛАСАТАСЦЬ

У час палавога даспявання некаторыя дзяўчаты вельмі моцна паўнеюць, але звычайна гэта не з'яўляецца вынікам якіх - небудзь сур'ёзных прычын. У большасці выпадкаў паўната выклікаецца тым, што арганізм яшчэ не паспеў прыстасавацца да змен, якія надышлі ў ім. Наперакор гэтаму многія дзяўчаты баяцца паўнаты і перастаюць добра харчавацца: яны не ведаюць, што гэта вельмі шкодна ў іх узросце, калі арганізм расходуе шмат энергіі і мае патрэбу ва ўзмоцненым харчаванні. Калі паўната пачынае прымаць трывожныя размеры, неабходна звярнуцца да ўрача, які назначыць вам адпаведную дыету.

Самы нашкодны спосаб пахудзець — гэта гімнастыка. Рабіце гімнастыку рэгулярна.

У некаторых дзяўчат паяўляецца валасатасць, што таксама з'яўляецца вынікам змен, якія адбываюцца ў арганізме. Ні ў якім разе не трэба вырываць валаскі пінцэтам або галіць іх. Калі неабходна знішчыць валасы, звярніцеся да ўрача.

## МОДА

**Чэхаславакія, мы ведаем, робіць добры абутак. Не ведаем толькі іх сакрэту як, каб навучыцца самім. А на здымку новыя фасоны на асенне-зімовы сезон. Мадэлі належаць пражскаму Дому Моды — самаму вялікаму ў Чэхаславакіі адзежова-абутковаму магазіну.** (вл)



## МАЦНЕЙ ЗА СТАЛЬ

Што мацнейшае — дрэва або сталь? Пытанне як быццам пустое. Хіба ж можа звычайнае дрэва па моцнасці раўняцца з магутнай сталлю?

Уявіце, можа! Больш таго, можа не толькі раўняцца, але і канкурыраваць, нават перамагаць!

Для гэтага дрэва прасуюць. Даследванні паказалі, што прасаваная драўніна з альхі, буку, бярозы і іншых парод па ўсіх якасцях не ўступае металу.

Утулкі і ўкладышы з прасаванай бярозы або сасны ў апорах лентачных і скрабковых транспарцёраў горнаруднай, нафтавай і лясной прамысловасці аказваюцца мацнейшымі і больш даўгавечнымі за бронзавыя і чыгуначныя. Прасаваную драўніну можна з поспехам выкарыстаць у машынабудаванні, у ліцейным і металарэжучым абсталяванні, на чыгуначным і гарадскім транспарце, у суднабудаванні.

Перавагі прасаванай драўніны вельмі вялікія. Вырабляецца яна з таннай і даступнай сыравіны, у асноўным з адходаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Кілаграм прасаванай драўніны ў вырабах замяняе да васьмі кілаграмаў металу, а каштуе ў два—тры разы танней. Прасаваныя дэталі маюць высокія фізіка-механічныя якасці, нізкі каэфіцыент трэння, добрую ўстойлівасць супраць карозіі і ўдарных нагрузак. Утулка вала растворамяшалкі з чыгуну або бронзы звычайна служыць не больш месяца, а з прасаванай драўніны — год. Да таго ж драўляная ўтулка ў пяць-шэсць разоў дзешавейшая.

Прасаваць драўніну можна на любым прадпрыемстве. Для гэтага патрэбны толькі аўтаклаў з электрычным абагрэвам і гідраўлічны прэс.

Масавая вытворчасць прасаванай драўніны адкрывае шырокія магчымасці разумнай утылізацыі адходаў. Разам з тым яна забяспечвае значную эканомію каляровых і чорных металаў.

**Барыс Копіт**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## ТАЙНА ВОЗЕРА ТОПЛІЦ

У канцы вайны, калі саюзныя арміі сустрэліся ўжо на Эльбе, гітлераўцы прабавалі яшчэ ратаваць свой «вялікі» Рэйх. Уцалелыя эсэсаўскія часці акапаліся ў Альпах. Але гэта няшмат ім дапамагло. Тады спрабавалі яны прыхаваць тое, што мелі. Ноччу да возера Топліц пад'ехалі цяжка гружаныя аўтамашыны. Некалькі дзесяткаў скрыняў было кінута на дно возера. У іх, праўдападобна, знаходзіліся награбленыя каштоўнасці, тайныя архівы СС, гестапа і шыфры, пры дапамозе якіх можна атрымаць у швейцарскіх банках перахоўваныя там фашысцкія мільярды.

Ішлі гады і мала хто ўспамінаў пра соннае аўстрыйскае возера Топліц. Аднак вакол яго не сціхала глухая барацьба разведак. Ужо ў 1946 годзе ў тамнічых акалічнасцях утапіўся ў ім ваеннаслужачы амерыканскай арміі. Потым французскі. Мясцовыя людзі не раз спатыкалі ля возера незнаёмых людзей. Асабліва часта паяўляліся тут немцы з Заходняй Германіі. Хаця яны і былі апрануты па-цывільнаму, усё ж адразу кідалася ў вочы іх афіцэрская выпраўка.

Пра возера Топліц публічна загаварылі ўсяго пару год таму назад. У 1959 годзе заходненямецкі часопіс «Штэрн» апублікаваў сенсацыйныя інфармацыі наконт затопленых у ім скарбаў. Рэдакцыя наладзіла экспедыцыю. Знойдзена было на дне восем скрыняў з фальшывымі англійскімі фунтамі стэрлінгаў, надрукаванымі ў Берліне ў гады вайны. У дзевятай скрыні былі знойдзены сакрэтныя дакументы гітлераўскай службы бяспекі. Як не дзіўна, але на гэтым далейшыя працы экспедыцыі раптоўна былі перапынены.

* * *

...Сярод аўстрыйскіх гор спіць возера Топліц. Сон яго зманлівы. Агенты разведак палююць за пахаванымі на яго дне сакрэтнымі дакументамі СС і гестапа.

Яны сустрэліся на беразе. Позним вечарам 5 кастрычніка ў дакладна дамоўлены час ля возера Топліц з'явілася пяць асоб. Двое з іх — нейкі Фрайбергер і спартсмен-вадалаз Эгнер прыбылі проста з Мюнхена. Рэшта — доктар Шмідт, інжынеры Готфрыд і Мітвальскі прыехалі сюды раней і пасяліліся некалькі кіламетраў адсюль у гасцініцы (яны таксама з Заходняй Германіі). Зусім сцямнела, калі надуваная гумовая лодка з доктарам Шмідтам і Эгнерам выплыла на возера. Зніклі ў цемені. Неўзабаве данёсся глухі плюск. Гэта Эгнер нырнуў на дно возера Топліц.

Праз паўгадзіны Шмідт вярнуўся адзін. Эгнера не было. Нейлонавы шнур, на якім ён апускаўся, аказаўся парваным. Уся кампанія села на машыны і з прытушанымі фарамі ад'ехала ад возера. Праз дзве гадзіны яны праехалі граніцу паміж Аўстрыяй і Заходняй Германіяй. Толькі ў Мюнхене Фрайбергер заявіў у паліцыю аб знікненні Эгнера.

Ласыя на сенсацыю заходнія газеты ўзнялі шуміху, перад усім, вакол асобы самога Фрайбергера. Выяўлена, што ён даўно звязаны з сакрэтнай службаю, працаваў у разведцы адмірала Канарыса, у 1940 годзе быў арыштаваны швейцарскімі ўладамі за шпіянаж у карысць гітлераўскай Германіі і засуджаны на смерць. За Фрайбергера, відаць, моцна заступіліся. Расстрэл быў заменены пажыццёвай турмою. Аднак у 1952 годзе ён аказаўся на свабодзе. Заходненямецкаму шпіёну генералу Гелену надта патрэбны былі вопытныя кадры.

Гаворачы пра тайну Топліца нельга не ўспамянуць яшчэ пра нейкага Альбрэхта Гайсвінклера. Жыве ён у невялікім мястэчку Бад Аусзее, што знаходзіцца ў дваццаці кіламетрах адсюль. Афіцыяльна з'яўляецца дырэктарам мясцовай бальнічнай касы. Паявіўся тут у незвычайны час і незвычайным спосабам. Як агент англійскай разведкі Гайсвінклер быў скінуты сюды на парашуце 9 красавіка 1945 года для выканання «спецыяльнай аперацыі» у сэрцы гітлераўскай «альпійскай крэпасці». З таго часу ён моцна прыжыўся ля возера і, трэба спадзявацца, добра ведае пра яго сакрэты. Цвердзіць, што пад вадою ляжыць пятнаццаць скрыняў з фальшывымі англійскімі грашыма і 21 скрыня з дакументамі СС і гестапа, якія панумараваны ад Б-1 да Б-22 (скрыня Б-9 была знойдзена рэдакцыйнай экспедыцыяй у 1959 годзе).

* * *

Глыбіня Топліца даходзіць да 120 метраў. На глыбіні 70 метраў існуе яшчэ адно «дно» — з плаваючых бярвенняў даўно патануўшых дрэў. Словам, возера з падвойным дном. І сапраўды, возера Топліц мае два дна. Адно з іх усяляк намагаюцца скрыць тыя, хто баіцца разгалосу сакрэтаў Рэйха.

Аказалася, што шнур Эгнера не парваўся, але быў перарэзаны. Крымінальная экспертыза пацвердзіла гэта. Наўрад, ці ведаў Эгнер пра фактычную ролю сваіх знаёмых — Фрайбергера, Шмідта і інш.

(а-ся)

## МОСТ

Нарвегія — краіна фіёрдаў — вузкіх, глыбока ў сушу урэзаных заліваў. На здымку Рамбакфіёрд, а праз яго нарвежцы будуюць свой найбольшы мост 535 м даўжыні. Ён скароціць дарогу да горада Нарвіка. Горад вядомы нам гераічнай барацьбой польскіх жаўнераў у час ІІ сусветнай вайны. вл.



 




## ПАГУТАРЫЛІ

Сустрэліся дзве сяброўкі:

— Добры дзень, даражэнькая, што чуваць у цябе?

— Ах, нядобра, маю хлопчыка, 7 месяцаў ужо, ды захварэў. Не ведаю, што сталася. На двор не выношу, а прастыў. Пасаджу на падлогу і гуляе цацкамі, пакуль не замочыцца, або не запэцкаецца. А як толькі гэта зробіць, дык адсунецца ў другое месца, а сам ручкy ўсадзіць у мокрае і ўсё нешта рысуе. Каб толькі паправіўся, то будзе вялікім мастаком. А ў цябе што чуваць?

— А ў мяне вялікае гора! У мяне быў таксама сыночак. Дык такі разумненькі, ды такі міленькі, такі моцненькі!

— Памёр?

— Не, нежывенькі нарадзіўся.

Прыслаў **Алік Маркевіч**




Калі акт рэвізіі «абмываюць», зусім магчыма, што ў ім не ўсё чыста.

### ЦЯЖКІ ПРЫГАВОР

Пачуўшы прыгавор суддзі, абвінавачаны цяжка застагнаў, быццам калоду падымаючы.

— Што так цяжка застагналі? — спытаў абвінавачанага суддзя.

— Надта цяжкі прыгавор атрымаў, — адказаў абвінавачаны.

Прыслаў **В. Хомік**

• • •




Пацыенты, якія чакалі сваёй чаргі ў паліклініцы, пацяшалі сябе тым, што час — гэта найлепшы лекар.

• • •

### ТЛУМАЧЭННЕ

Вярнуўся муж раніцай і гаворыць:

— Выбачай, жонка, я выйшаў з гасподы вечарам і толькі цяпер дайшоў дамоў.

— Дык гаспода недалёка, прайсці праз дзве кароткія вуліцы.

— Так, вуліцы кароткія, але затое якія шырокія!

Прыслаў **Ул. Красоўскі**

### ДЗВЕ ПАМЯЦІ

Наш Лявон — чалавек вельмі здатны.
Канстытуцыю помніць выдатна:
Ўсе правы — назубок, без падказкі.
А як дойдзе након абавязкаў —
Ён тупіца, дурніца, варона.
Ну, не памяць, а сіта ў Лявона!

**М. Скрыпка**

## КУР'ЕЗЫ

### ПА ПРЫКЛАДУ КІНАЗОРКІ

Пераймаючы Аніту Экберг, кіназорку, якая праславілася сваімі эксцэнтрычнымі паводзінамі, асабліва купаннямі ў гарадскіх фантанах, 23 дзяўчыны горада Сандэбіч распрануліся дагала на цэнтральнай плошчы і пачалі купацца ў фантане. Атрад паліцыі з цяжкасцю прымусіў іх апрануцца і пайсці.

«Ліберасьён»

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

У «Ніву» шлю я выклік гэты
Супрацоўніку газеты —
Слаўнаму фельетаністу,
Сатырыку, гумарысту,
Чытачам усім дарагому,
Дзядзьку Леваню роднаму.
Дзе ты, Дзядзенька, прапаў?
Мо' ў летарг нейкі ўпаў?
Чаму цэлы месяц гэты
Ніц не напісаў у газету?
Захварэў мо', ратуй Божа?
З жонкай пасварыўся можа?
Дзе Ты дзеўся, даражэнькі?
Пайшоў у лес мо' па апенькі
Й заблудзіўся нам на гора?
А мо' рыбку вудзіш у моры?
Дзе б ні быў Ты, адгукніся,
Шпарка за пяро вазьміся.
Пішы ў «Ніву» часта, густа,
Тваe творы нам да густу.
Спрэчкі будуць тут дарэмны,
Гумар у «Ніве» незаменны.
Ты павінен гэта знаць,
Не натурыцца — пісаць.
Знаць павінен, што народ,
Зычыць жыць Табе сто год!

**Міхась Красоўскі**
4.XI.1963 г. Малынка

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе **Расціслава Бірыцкага** з Семяноўкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню.

## ДОРОГИ

**Эх, дороги...
Пыль да туман,
Холода, тревоги
Да степной бурьян.
Знать не можешь
Доли своей,
Может, крылья сложишь
Посреди степей.**

**Вьётся пыль под сапогами
степями,
полями,
А кругом бушует пламя
Да пули свистят.**

**Эх, дороги...
Пыль да туман,
Холода, тревоги
Да степной бурьян.
Выстрел грянет,
Ворон кружит:
Твой дружок в бурьяне
Неживой лежит...**

**А дорога дальше мчится,
пылится,
клубится,
А кругом земля дымится,
Чужая земля.**

**Эх, дороги...
Пыль да туман,
Холода, тревоги
Да степной бурьян.
Край сосновый.
Солнце встает.
У крыльца родного
Мать сыночка ждет.**

**И бескрайними путями,
степями,
полями
Всё глядят вослед за нами
Родные глаза.**

**Эх, дороги...
Пыль да туман,
Холода, тревоги
Да степной бурьян.
Снег ли, ветер, —
Вспомним, друзья!..
Нам дороги эти
Позабыть нельзя.**

### МІНІЯЦЮРЫ

## АСЕЛ І КАЗА

Каза папрасілася на работу.

— Куды толькі прызначыць цябе — не ведаю, развёў вушамі асёл. — У агарод цябе, як і свінню, пускаць нельга. Капуста там...

— А я... я магла б працаваць і не ў агародзе. Магла б шаткаваць капусту, — сарамліва апускаючы вочы, прапанавала каза.

— У такім разе — прашу, даражэнькая, — і асёл падвёў казу да цэлай гары качаноў.

Праз некалькі дзён ён прыйшоў праверыць работу казы. Выявілася, што качаны зніклі, а бочкі — пустыя.

— Куды падзелася капуста? — спытаў асёл.

— А я сшаткавала яе, — закруціла хвосцікам каза.

— Бачу, бачу, дар... — не даказаў асёл, язык яго заплятаўся.

Так асёл застаўся на ўсю зіму без баршчу.

**Я. і Г. Бароўкі**

### ВЯСЁЛАСЦЬ

Бацька, увайшоўшы ў хату, прыкмеціў, што дачка вельмі вясёлая.

— Чаму ты такая вясёлая? — пытаецца бацька.

— Татачка, сёння я атрымала першую двойку, — адказала дачка.

### СУМЛЕННАСЦЬ

— А каб цябе, забыўся пад падушкай партманет з грашыма!

— Дык ты ж гаварыў, што твая хатняя работніца сумленная.

— Так, аддасць партманет жонцы.

Прыслаў **Ул. Сцепанюк**

### БАЛГАРСКІ ГУМАР

## ПРОЗВІШЧА

Напісаў я фельетон. Даў пачытаць жонцы. Задаволена сяджу і чакаю станоўчых рэплік. Але яна скончыла і адразу пляснула ў далоні:

— Ты з глузду з'ехаў!

Гляджу і нічога не разумею. Не ўлавіў сэнсу ў яе словах.

— Чаму ты свайго героя назваў Ралевым?

Усё яшчэ гляджу на яе тупа.

— Ты ж да таго і зусім дурань! — кпіла мая жонка. — Мой жа загадчык аддзела кадраў — Рылеў.

— Дык і што? Ралеў — гэта ж не Рылеў.

— Дурань! Прыдумай зараз жа іншае прозвішча.

Я прымусіў працаваць усе свае мазгавыя звіліны.

—Векілеў? — спытаў праз некалькі хвілін з надзеяй.

Жончына памяць рэзала, нібы брытва.

— Не пойдзе! Ты, мусіць, забыў, што ў намесніка твайго дырэктара прозвішча Весілеў. Здагадаецца.

— Кардашаў, — сказаў я адразу, каб рэабілітаваць сябе.

Жонка паглядзела на мяне з агідай.

— Ты ж ведаеш, што ў аднаго з нашых інспектараў прозвішча Кадашаў.

— Мамарчаў! — не здаваўся я.

— Ты давядзеш мяне да інфаркту! — Жонка аж тупнула нагой ад злосці. — Ты што, забыўся прозвішча свайго дырэктара?

Яна мела рацыю. Дырэктар мой — Марчаў. Я зусім засумаваў, але вырашыў мужна працягваць барацьбу. Я называў прозвішчы адно за адным, а жонка адразу ж знаходзіла падобныя сярод яе і маіх прамых і ўскосных начальнікаў. Я аж успацеў, раззлаваўся.

— Шашошаў! — выгукнуў, нарэшце, я.

Жонка ўмомант сціхла. Сапраўды мая знаходка была геніяльнай. Наўрад ці знойдзецца чалавек з такім прозвішчам. Я задаволена паціраў рукі і крочыў па пакою, як баксёр, якога ніколі ніхто не перамагаў.

Фельетон надрукавалі. Праўда, я паспрачаўся з рэдактарам з-за прозвішча героя, але ўсё ж пераканаў яго гэтымі трыма пагрозлівымі «ш».

Праз тры дні аднойчы ўвечары перад маім домам мяне спыніў нейкі тып.

— Шашонаў! — працягнуў ён руку. Я гляджу на яго незразумелымі вачыма.

— Ты што нарабіў, каб на цябе халера, га? — працадзіў ён і тыцнуў мне пад нос часопіс. — Змяніў толькі адну літару і думае, што ўсе людзі дурні!

Я і адказаць нічога не паспеў, як ён ударыў мяне па галаве нечым значна цвярдзейшым, чым яна.

Цяпер я хаджу з завязанай галавой. Усё, здаецца, добра, толькі не ведаю: якая пасада ў Шашонава і на каго скардзіцца...

Думаю, што ў наступным фельетоне мае героі будуць з англійскімі прозвішчамі.

**Дзімітр ШЫВАРАЎ**



Цяжкая перамога.




Без слоў.




У мышыным заапарку.



— Грамадзянін шафёр, колькі з мяне?

 